ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 24(5206)
Аўторак,
27 лютага
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
48 руб.





## Лепшыя з лепшых падручнікаў

***Напісаць добры падручнік, які б адпавядаў патрабаванням сучаснай школы, — справа не з лёгкіх. Тым не менш вось ужо другі год запар у краіне адбываецца адметная для ўсіх нас падзея — выбіраюцца лепшыя з лепшых нацыянальных школьных падручнікаў. Вынікі сёлетняга конкурсу "Падручнік года" ў сярэдзіне лютага былі абвешчаны прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі ў сценах Рэспубліканскага выставачнага цэнтра.***

Са словамі віншавання ў адрас аўтараў падручнікаў у гэты дзень звярнуўся намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян, які адзначыў: "Мы павінны толькі пашыраць колькасць тых падручнікаў, якія могуць прэтэндаваць на званне лаўрэата конкурсу".

Выданні для агульнаадукацыйнай школы і для спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы — дзве конкурсныя намінацыі, аўтары якіх былі ўзнагароджаны дыпломамі Міністэрства адукацыі. Па першай намінацыі першае месца па праву заваяваў падручнік па літаратурным чытанні для вучняў 1 класа "Буслянка", аўтарамі якога з'яўляюцца паэт Артур Вольскі і І.А.Гімпель, якія падзякавалі ўсім, хто дапамагаў ім у працы, "дапамагаў крышталяваць нашу беларускую чытанку".

Другое месца падзялілі падручнікі "Беларуская мова, 5 клас" (аўтары: В.П.Красней, Я.М.Лаўрэль) і "Матэматыка. Вучэбна-метадычны комплекс для падрыхтоўчага класа" (аўтары: М.І.Касабуцкі, А.Т.Катасонава, А.А.Столяр, Т.М.Чабатарэўская). Адпаведна III месца ў гэтай намінацыі было прысуджана падручнікам "Нямецкая мова (вучэбны комплекс), 2 клас" (А.Ф.Будзько) і "Біялогія, 8 клас" (Л.В.Камлюк, А.С.Шалапёнак, А.Р.Александровіч).

Першае месца сярод выданняў для спецыяльнай агульнаадукацыйнай школы заняў падручнік для 4 класа спецшколы для дзяцей з парушэннямі слыху "Сцяжынка ў граматыку" (аўтар Т.А.Грыгор'ева).

Дыпломамі Міністэрства адукацыі і грашовымі прэміямі ўзнагароджаны аўтары падручнікаў — лаўрэатаў конкурсу: "Руская мова, 1 клас" (М,Б.Анціпава, А.В.Верніkоўская, А.С.Грабчыкава); "Праталінка" — падручнік па літаратурным чытанні для вучняў 1 класа (І.М.Страмок); "Беларуская літаратура, 9 клас" (Г.С.Гарадко, Ул.А.Лебедзеў, В.Я.Ляшук); "Матэматыка, 3-4 класы спецыяльнай дапаможнай школы" (Ул.П.Грыханаў); "Я і акаляючы свет", падрыхтоўчы клас спецыяльнай дапаможнай школы (Т.Л.Ляшчынская).

Хочацца далучыцца да слоў Г.Д.Дыляна аб тым, што конкурс "Падручнік года" абавязкова прадоўжыць сваё жыццё, а ў школах з'явяцца лепшыя з лепшых беларускіх выданняў.

**Вольга ДУБОВІК.**

Жыві, Беларусь!

## "О, крыўская зямля! О, волатаў нашчадкі!"

***Педагагічны і вучнёўскі калектывы нашай Дрысвяцкай школы актыўна ўключыліся ва Усебеларускую турысцка-краязнаўчую экспедыцыю "Наш край" пад дэвізам "Жыві, Беларусь!" Мы стварылі савет экспедыцыі, распрацавалі планы работы. Кожным напрамкам экспедыцыйнай дзейнасці займаецца асобны вучнёўскі атрад.***

У хуткім часе быў складзены "Летапіс вёскі Дрысвяты", у якім было шмат раздзелаў, прысвечаных "Паходжанню назвы "Дрысвяты""; археалагічнай спадчыне краю, яго архітэктурным помнікам, легендам і паданням, рамяству і народным умельцам, абрадам, звычаям, традыцыям і інш.

"Летапіс вёскі "Дрысвяты" ў 1998 годзе заняў першае месца ў абласным і другое месца ў рэспубліканскім конкурсе ў намінацыі "Летапісанне роднай вёскі".

У нас цесная сувязь з Браслаўскім краязнаўчым музеем, з яго навуковым супрацоўнікам Канстанцінам Сяргеевічам Шыдлоўскім. Вынік супрацоўніцтва паміж школай і музеем — гэта праца "Браслаўскія сшыткі № 3, 1999", якая цалкам прысвечана гісторыі Дрысвят. Краязнаўчы гурток "Крынічка" прымаў непасрэдны ўдзел у зборы матэрыялу для напісання гэтай працы.

У школе працуе школьнае экскурсійнае бюро, дзе апрацоўваецца сабраны матэрыял, рыхтуецца яго экспазіцыя.

Да пачатку 1999-2000 навучальнага года было сабрана шмат матэрыялаў па гісторыі вёскі Дрысвяты. Улічваючы гэты факт, абласны аддзел адукацыі прапанаваў для выкладання ў школе спецыяльны краязнаўчы курс "Гісторыя вёскі Дрысвяты" з 1999-2000 навучальнага года. Спецкурс разлічаны на 143 гадзіны (5 — 9 класы).

2000-2001 навучальны год — гэта другі год, як вядзецца выкладанне гэтага спецкурса. І таму, напэўна, можна зрабіць некаторыя высновы. І адказаць на пытанні, што дае вывучэнне такога курса і ці патрэбен увогуле такі курс, калі дзеці і так вельмі загружаны. Ёсць пытанні, але ёсць на іх і адказы. Большасць вучняў і бацькоў бачаць патрэбу ў такім спецкурсе. Можна пачуць, як бацькі па-добраму зайздросцяць сваім дзецям: "Як добра, што вы ведаеце гісторыю Дрысвят, а мы, напэўна, так і памерлі б, нічога не ведаючы". Але, на жаль, можна пачуць і такое: гэта лішняе абцяжарванне дзяцей. Маё асабістае меркаванне — такі спецкурс патрэбен! Ён дае магчымасць вучням адчуць непарыўную сувязь адзінай гісторыі, гісторыі Бацькаўшчыны. Гісторыя вёскі — гэта блізкая сэрцу гісторыя. Менавіта на аснове мінулага вёскі вучні лепш разумеюць гісторыю Бацькаўшчыны, і паўстае яна перад імі не як нешта далёкае і таму не вельмі зразумелае, а як свая, блізкая, гісторыя.

Напрыклад, вайна 1812 года — гэта не проста вайна паміж Расіяй і Францыяй, якая некалі недзе адбылася, а ў пэўным сэнсе частка мясцовай гісторыі, таму што з таго часу засталіся паданні і пракладзеная французамі дарога. Праз Дрысвяты са сваімі салдатамі праходзіў маршал Нэй. А першая сусветная вайна — колькі цікавых звестак, дакументаў! Тут праз возера праходзіла лінія фронту паміж рускімі і нямецкімі войскамі. Нават захавалася паданне аб гэтых падзеях. Пазіцыі рускіх знаходзіліся каля Дрысвятаў, а праз возера — нямецкія пазіцыі. Аднойчы ў час адпачынку рускія салдаты, а гэта былі данскія казакі, пачалі спяваць. Было ціха. Песні ліліся над возерам. Раптам убачылі рускія, што да іх плыве човен. Спачатку баяліся блізка падплываць да яго, але, асмялеўшы, выцягнулі на бераг. Якім жа было іх здзіўленне! На дне чаўна стаяла скрынка з ромам. Гэта немцы прыслалі падарунак данскім казакам за прыгожыя песні. Вось так было...

Можна шмат прыводзіць прыкладаў, таму што ніводная падзея з гісторыі Бацькаўшчыны не абмінула вёску Дрысвяты. А колькі славутых імёнаў, звязаных з гісторыяй вёскі!

Вывучаючы гісторыю роднага краю, якая з'яўляецца часткай гісторыі Беларусі, мы зноў і зноў упэўніваемся ў справядлівасці слоў Вацлава Ластоўскага, які некалі пісаў: "О, крыўская зямля! О, волатаў нашчадкі!". Бо які яшчэ народ мог праявіць такую прагу да жыцця, такую звыштрывапасць, каб вынесці ўсе пакуты і не згінуць. А таму пачэсным абавязкам маладога пакалення з'яўляецца захаванне спадчыны свайго народа.

**Эмілія ШАВЭЛА,**
**настаўніца гісторыі, кіраўнік краязнаўчай работы Дрысвяцкай сярэдняй школ.**

Пра што б хацелася сказаць на ІІ з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## "Хочам жыць годна!"

**А.М.Мацюк, настаўніца матэматыкі гімназіі Мікашэвіцкай сярэдняй школы Лунінецкага раёна:**

— Настаўніку-прадметніку вельмі цяжка выконваць на належным узроўні работу класнага кіраўніка. Прапаную карэнным чынам перагледзець палажэнне аб класным кіраўніку. Лічу, што даўно патрэбна ўводзіць у штатны расклад стаўку вызваленага класнага кіраўніка.

Хачу сказаць дзякуй бацькам сваіх вучняў. Яны дапамагаюць пераздымаць і множыць неабходны метадычны матэрыял, купляюць дыдактычную літаратуру, якой нам катастрафічна не хапае, рамантуюць школьныя кабінеты. Вельмі крыўдна нам, настаўнікам, увесь час быць у ролі прасіцеля!

**Г.В.Ухаль, настаўніца пачатковых класаў (Брэст):**

— Вучань — не сасуд, які патрэбна напоўніць, а факел, які патрэбна запаліць. Лічу, што толькі развіццёвае навучанне можа "запаліць" факел. Сама гэтая сістэма дапамагае настаўніку самаўдасканальвацца, яна вучыць настаўніка і вучыць вучыцца вучня. Толькі чатыры гады я працую на сістэме развіццёвага навучання. Інакш працаваць ужо не змагу. Вучыць па-іншаму — гэта будзе злачынства ў адносінах да дзяцей. Мяне вельмі цікавіць вопыт работы настаўнікаў, якія працуюць па сістэме развіццёвага навучання. Патрэбны сродкі для распрацоўкі падручнікаў на беларускай мове па гэтай сістэме.

**В.Е.Урбан, настаўніца рускай мовы і літаратуры, І.В.Каплунова, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, Л.В.Цыганкова, настаўніца матэматыкі сярэдняй школы № 25 Магілёва:**

— У адукацыі даўно насталі перамены. Нашы дзеці атрымліваюць многа інфармацыі па тэлебачанні, радыё, праз друк і г.д. Традыцыйнымі ўрокамі іх ужо не зацікавіш. Вучням мала атрымліваць веды са слоў настаўніка, ім хочацца самім рабіць адкрыцці, удзельнічаць у эксперыментах, праводзіць доследы. Таму мы падтрымліваем ідэю ўкаранення ў адукацыйны працэс (як альтэрнатыўнай) сістэмы развіццёвага навучання, якая дапамагае вучню праявіць сябе як асобе.

**Е.К.Усакова, настаўніца гісторыі, С.М.Калініна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, С.Е.Барабанава, настаўніца матэматыкі сярэдняй школы № 40 Магілёва:**

— Слабая матэрыяльная забяспечанасць школ і як вынік гэтага адсутнасць неабходных наглядных дапаможнікаў, падручнікаў, карт і г.д. значна зніжае каэфіцыент якасці засваення новых ведаў і эфектыўнасць навучальнага працэсу.

Неабходна перагледзець прынцыпы сістэмы традыцыйнага навучання і ўвесці ў навучальны працэс элементы новых навучальных тэхналогій.

Даўно наспеў час павысіць матэрыяльны дабрабыт настаўніка, што дало б яму магчымасць якасна павысіць свой прафесійны ўзровень, жыць і адчуваць сябе ў грамадстве годна.

**Падрыхтавала Святлана БЕНЬ.**

## Каб не мець клопату?..

**Люміла Хахлова, настаўніца Раснянскай дапаможнай школы-інтэрната Дрыбінскага раёна:**

— Лічу, што на з'ездзе абавязкова павінна быць агучана праблема кадравага забеспячэння спецыяльных школ. Ні для каго не сакрэт, што ва ўстановах такога тыпу катастрафічна не хапае дэфектолагаў. У школе, напрыклад, дзе я працую, няма псіхолага, сацыяльнага педагога, вялікі працэнт складаюць настаўнікі з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. І гэта пры тым, што з кожным годам кантынгент вучняў спецшкол становіцца ўсё больш складаным. Атрымліваць жа дадатковую спецыяльнасць, перакваліфікоўвацца настаўнікі не вельмі зацікаўлены, бо гэта амаль не адбіваецца на іх матэрыяльным становішчы.

Патрабуе сур'ёзнага аналізу той факт, што нярэдка ў спецыяльныя школы трапляюць дзеці, якія не павінны ў іх вучыцца. Часцей за ўсё гэта педагагічна запушчаныя вучні. Звычайная агульнаадукацыйная школа з імі проста не справілася, таму, каб не мець клопату, скінула іх з сябе. Таму, відаць, павінна быць ускладнена працэдура афармлення вучняў у спецыяльныя школы, а можа, нават, і ўдакладнены крытэрыі, згодна з якімі дзеці могуць трапіць у такія ўстановы.

Ужо шмат гадоў гавораць пра неабходнасць замены школьнай мэблі. Але воз, як кажуць... Хацелася б, каб вучні, нарэшце, селі за зручныя парты, у якіх быў бы патрэбны для фарміравання нармальнай асанкі нахіл, якія маглі б рэгуляваца па вышыні, мелі падлакотнікі. За такой партай не толькі зручна сядзець, але яна, так бы мовіць, прывучае вучня да самастойнасці, бо спісаць ці падгледзець у суседа — нельга. Я чытала, што партамі такіх мадэляў забяспечаны навучальныя ўстановы Архангельскай вобласці...

**Падрыхтала Тамара КАРОТКАЯ.**



На маю думку

## Ці трэба навучаць школьнікаў праву?

***Прэстыж прафесіі юрыста высокі і даўгалетні. Паўсюдна вітаецца прававая асвета. Права вывучаецца ў школе як адзін са складнікаў прадмета "Чалавек і грамадства". Тэндэнцыя такая, што права хочуць увесці як асобную, паўнапраўную, абавязковую дысцыпліну ў рамках школьнай праграмы. Я зусім не хачу, ды і не магу прынізіць ролю права, важнасць ведання законаў кожным грамадзянінам ці жыхаром Рэспублікі Беларусь. Але хочацца падысці да гэтага пытання з пункту гледжання мэтазгоднасці.***

Узрост школьнікаў, якім давядзецца вывучаць права, не старэйшы за 17 гадоў. Катэгорыі права, структура законаў — гэта ўсё вельмі складаныя паняцці. Ці патрэбны яны школьнікам? Увогуле "так", бо права — важнейшая частка нашага жыцця, курс будзе садзейнічаць фарміраванню светапогляду, маралі. Але гэтыя задачы выконваюць і іншыя прадметы: гісторыя, літаратура, "Правы чалавека" і інш. Ці варта нагружаць вучняў, яшчэ дзяцей, лішнім прадметам? Яны ж і так перагружаны, вывучаюць шмат прадметаў, матэрыял якіх засвойваюць часта не больш чым на 20-30 працэнтаў. Права сапраўды захоплівае. Кожны пятышосты школьнік, калі не больш, марыць стаць юрыстам. Але будучыя юрысты вывучаюць права гадамі, прычым у іх праграмах прававыя дысцыпліны займаюць 80-90 працэнтаў. У школьнікаў жа права будзе складаць 2-3 працэнты ад агульнай колькасці дысцыплін. Каб дыпламаваны юрыст мог працаваць адвакатам, суддзёй, патрабуецца стаж работы па спецыяльнасці ад двух да пяці гадоў. Гэта значыць, юрыстам становяцца праз 7 — 9 гадоў.

Вывучыўшы права ў школе, нават пры выдатным выкладанні, юрыстам не станеш. Я гэта ведаю з вопыту работы юрысконсультам, настаўнікам у школе, выкладчыкам на аддзяленні "правазнаўства" ў тэхнікуме і, нарэшце, ва універсітэце. Я не супраць інфармаванасці школьнікаў у пытаннях права. Няхай вывучаюць яго ў рамках факультатыўных дысцыплін, нядзельных школ і г.д. (размова, безумоўна, не ідзе пра спецшколы з юрыдычным ухілам).

Адна з задач школы — рыхтаваць дзяцей да жыцця. Вось выкананню гэтай задачы і павінен спрыяць "лекторый азбукі права". На мой пункт гледжання, вучні павінны быць азнаёмлены (без атрымання адзнак і залікаў) з такімі палажэннямі прававых нормаў, якія спатрэбяцца ім пасля заканчэння школы. А менавіта: што рабіць, калі згублены школьны атэстат; як быць, калі адмовілі ў прыёме дакументаў у ВНУ; як абскардзіць вынікі экзаменаў; якія правы і абавязкі ў школьнікаў і студэнтаў; як паводзіць сябе пры прыёме на работу; што рабіць, калі застаўся без бацькоў; як дапамагчы таварышу, калі яго бацькі не выконваюць бацькоўскіх абавязкаў; якія правілы супольнага жыцця, выплаты падаткаў, плацяжоў трэба захоўваць; як афарміць пашпарт, выезд за мяжу; навошта рэгістравацца ў ЗАГСе і рэгістраваць дакументы ў натарыуса; як адкрыць рахунак у банку і абараніць свае аўтарскія правы; як афарміць спадчыну. Пералік можа быць працягнуты, але гэта ўсё ж такі тое, з чым можа сутыкнуцца школьнік і што яму можа рэальна спатрэбіцца на гэтым адрэзку жыццёвага шляху. У форме гутарак вышэйназванае і трэба даваць вучням. Напрыклад, пра атэстат гутарку можа правесці дырэктар ці завуч школы, нейкія звесткі школьнікам раскажуць работнікі аддзела апекі, начальнік пашпартнага стала і інш.

Праводзіць гутаркі належыць у 8-9 класах, бо старшакласнікам ужо не да гэтага, яны рыхтуюцца паступаць у ВНУ, тэхнікумы, шукаюць работу. Абмежаваная дзеяздольнасць, як вядома, наступае ў 14 гадоў. Гэта самы аптымальны ўзрост для вывучэння "азбукі права". Самі гутаркі могуць суправаджацца выхадам на месца (напрыклад, у ЗАГС, органы падатковай інспекцыі), праглядам вучэбных кінафільмаў.

Плюсам дадзенага варыянта з'яўляецца тое, што перападрыхтоўка настаўнікаў для гэтага не патрабуецца. Акрамя таго, трэба адрадзіць традыцыі супрацоўніцтва школы і структур, якія звязаны з выхаваннем дзяцей, далучаць да работы з вучнямі выкладчыкаў ВНУ, якія навучаюць праву. Усе пытанні каардынацыі павінны быць урэгуляваны мясцовымі органамі кіравання.

"Мы цалкам згодныя.., што не з кур'ёзамі і цудамі навукі, — пісаў К.Д.Ушынскі, — павінна ў школе знаёміцца дзіця, а, наадварот, прывучыць яго знаходзіць цікавае ў тым, што яго няспынна і паўсюль акаляе і тым самым паказвае яму на практыцы сувязь паміж навукай і жыццём".

Тады, можа, пакінем права юрыстам, а школьнікам дадзім тое, што давалі з пакалення ў пакаленне, у тым ліку "Злачынства і пакаранне" Ф.М.Дастаеўскага, сусветную гісторыю і гісторыю Рэспублікі Беларусь, а таксама ненавязлівыя "азы права"?

**Сяргей ЖАГОРАЎ,**
**старшы выкладчык кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.**

Пазашкольная педагогіка

## Добрыя справы добрых людзей

***Адным з галоўных накірункаў дзейнасці нашага Дома дзіцячай і юнацкай творчасці з'яўляецца арганізацыя работы гурткоў па інтарэсах, дзе навучанне бясплатнае і шырока даступнае для кожнага школьніка.***

У Доме творчасці працуюць гурткі самадзейнай мастацкай і тэхнічнай творчасці: аплікацыя з саломкі і гліняная цацка, мяккая цацка і мастацкае вязанне, работа са скурай, малюнак і жывапіс, вакальны і тэатральны, пачатковага тэхнічнага мадэліравання, машынапісу і асноў справаводства (кіраўнікі Г.П.Віскуп, І.В.Гарбар, З.М.Скавародка, В.С.Холад, А.І.Янчанка, Н.В.Саленікава, Л.У.Міхайлава). І найважнейшую задачу наш педагагічны калектыў бачыць у стварэнні аптымальных умоў для забеспячэння развіцця асобы дзіцяці з улікам яго індывідуальнасці. Але ж гэтыя самыя спрыяльныя ўмовы ў гуртках дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, тэхнічнай творчасці ў першую чаргу маюць на ўвазе трывалую матэрыяльную базу. А мы з вамі добра ведаем, што ўдзел дзяржавы ў фінансавай падтрымцы ўстаноў пазашкольнай адукацыі і выхавання сёння вельмі і вельмі абмежаваны.

Якія ж сёння крыніцы фінансавання гуртковай дзейнасці Дома творчасці? Наш калектыў дзейнічае па прагаворцы: "Хто дзіця ад працы ратуе, той сабе вяроўку рыхтуе". Таму лічым адной з лепшых тэхналогій выхавання — арганізацыю грамадска карыснай дзейнасці дзяцей. Салому для аплікацый і гліну нарыхтоўваем самі. Гэты прыродны матэрыял бясплатны. А на футра і тканіну для мяккай цацкі, паперу, кардон, клей для гурткоў малявання, ПТМ, машынапісу грошы зарабілі разам з дзецьмі кіраўнікі гурткоў ад продажу дзіцячых работ на кірмашах. У мінулым годзе гэта сума склала 70 тысяч рублёў. Але ж калі мы будзем дзейнічаць толькі ў гэтым накірунку, то страцім творчасць. І гэта ўжо будзе не Дом творчасці, а нейкае малое прадпрыемства, дзе працуюць дзеці.

Добра, што ёсць людзі, якія падтрымліваюць дзіцячую творчасць. Яны добра разумеюць, што эканоміць на дзецях нельга, бо потым трэба будзе укладваць грошы значна большыя на іншыя ўстановы. Гэта ў першую чаргу генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання "Палімір" В.С.Анціпін і яго намеснік С.У.Фёдарава, начальнік Ветрынскага філіяла ВШПО "Віцябчанка" Л.У.Самусенкава, І.І.Беразоўскіх і Л.А.Беразоўскіх з прыватнага прадпрыемства "БІЛА", што ў г.п.Ветрына. Гэта і камерцыйны дырэктар фірмы "Мона" А.В.Плiскачэўскі, начальнік камерцыйнага аддзела А.І.Якін, дырэктар Полацкага паліграфічнага прадпрыемства "Спадчына Скарыны" У.К.Петрашкевіч і галоўны тэхнолаг С.Л.Васільева. Цудоўныя людзі. Наогул Дому творчасці шанцуе на такіх людзей. Добрых слоў ніколі не трэба шкадаваць. Замнога іх не было. І таму нельга не назваць камандзіра вайсковай часці пагранічнікаў У.У.Петрушэню. Калі нам вельмі-вельмі патрэбна дапамога (напрыклад, транспарт) і няма ніякай надзеі гэтую дапамогу атрымаць, мы, як у апошнюю інстанцыю, звяртаемся да пагранічнікаў.

Дзяцінству патрэбна ваша дабрыня, дарагія людзі. Дзякую ўсім, хто гэта разумее і заўсёды гатовы дапамагчы дзецям.

**Аліна МУРАЎЁВА,**
**кіраўнік Дома дзіцячай і юнацкай творчасці Полацкага раённага аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай выхаваўчай работы.**

## Паважаныя настаўнікі!

**Прыйшоў час падумаць пра падпіску на "Настаўніцкую газету" на другі квартал 2001 года.**
**На старонках сваёй газеты вы прачытаеце:**

- пра вопыт настаўнікаў і педагагічных калектываў, эфектыўнасць якога праверана практыкай;
- пра новыя адукацыйныя тэхналогіі;
- пра дзейнасць школ па пераўладкаванні навучальна-выхаваўчага працэсу ў адпаведнасці з патрабаваннямі рэформы.

**Вы можаце атрымаць кваліфікаваныя кансультацыі спецыялістаў па разнастайных пытаннях школьнага жыцця.**

**Ваша газета прадаставіць свае старонкі для дыскусій па вострых праблемах педагогікі, арганізацыі і зместу агульнаадукацыйнай, прафесійнай і вышэйшай адукацыі.**

Паспяшайцеся падпісацца на "Настаўніцкую газету", бо ў рознічны продаж яна паступае ў абмежаванай колькасці экзэмпляраў.

Аформіць падпіску вы можаце са сродкаў, якія выдзяляюцца вам на набыццё метадычнай літаратуры.

Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў — 1650 рублёў, па ведамаснай падпісцы — 3555 рублёў.

***Ваша газета заўсёды з вамі!***

Памяць

# Радасць і смутак "афганскіх" сустрэч

***Напярэдадні чарговай гадавіны вываду войскаў з тэрыторыі Афганістана вось ужо трэці год запар у Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі збіраюцца хлопчыкі і дзяўчынкі, іх мамы, каб аддаць даніну памяці і пашаны дарагім сэрцу і назаўжды маладым родным людзям.***

Муж, бацька, брат, сябра... Нездарма кажуць, што душы людзей, якія пайшлі ад нас, адчуваюць, калі мы пра іх думаем, гаворым. У гэты лютаўскі дзень кветкі, слёзы, прызнанні ў любові гучаць з вуснаў тых, хто праз усё жыццё будзе несці светлую памяць аб воінах-інтэрнацыяналістах. Напэўна, няма на свеце чалавека, які застаецца абыякавым да болю і гора, прычыненых любой вайной. Таму шчырае спачуванне сем'ям загінуўшых, падтрымка і ўвага — гэта той неабходны мінімум, які патрабуецца ад кожнага свядомага чалавека.

Уладзімір Паўлавіч Грыдзюшка, прэзідэнт фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям", у 1987-1988 гг. пабываў у Афганістане, яму таксама ёсць што і, галоўнае, каго ўспомніць. Боль пакінутых мацярок, жонак, дзяцей — гэта боль добрага і шчодрага душой Уладзіміра Паўлавіча, які ўжо трэці раз арганізоўвае салодкія сталы падчас сімвалічных "афганскіх" сустрэч.

— Жыццё працягваецца, — сказаў У.П.Грыдзюшка дзецям, — няма вашых бацькоў, але ёсць вы. Беражыце сябе, расціце дастойнымі людзьмі, любіце і клапаціцеся аб сваіх матулях, бабулях... Ім сапраўды неабходны ваша падтрымка і цёплыя словы.

А потым былі падарункі.

Улічваючы ўзрост, захапленні, здольнасці хлопчыкаў і дзяўчынак, усе яны атрымалі падарункі па густу. І хоць хваля ўзбуджэння і задавальнення на нейкі час авалодала дзецьмі, да прапановы Тамары Іванаўны Доўнар, старшыні фонду абароны ўдоў і дзяцей ваеннаслужачых, загінуўшых у лакальных ваенных канфліктах, напісаць сачыненне "Пісьмо да таты..." усе трыццаць дзяўчынак і хлопчыкаў аднесліся вельмі сур'ёзна. Праз год, на такой жа сустрэчы, плануецца зачытаць урыўкі з дзіцячых сачыненняў.

Пасля выступлення ветэрана-афганца Уладзіміра Леанідавіча Гірэйкі, які ўзгадаў цяжкія гады службы, панесеныя страты і заклікаў да спачування родным загінуўшых, да вечнай памяці, пачаўся канцэрт.

Паша Быкаў са сваім татам Міхаілам Быкавым разам праспявалі песню, Валодзя Гарбузаў, удзельнік гуртка бардаўскай песні, Каця Дудзіч — аўтар і выканаўца ў адной асобе, Жэня Цымбаліст — усе яны, юныя артысты, спявалі вельмі пранікнёна і прыгожа. Сваімі чыстымі галасамі кранулі яны душы ўсіх прысутных. Усхвалявалі таксама і дзеткі з вакальнай групы "Іскаркі"...

Канцэрт, усмешкі, падарункі... Безумоўна, гэта прыемна, неабходна, шчыра. Глядзіш на дзяцей і радуешся: прыгожыя, здаровыя, задаволеныя. Але зазірнеш у вочы матуль і зразумееш, што іх усмешкі і радасць у гэтым жыцці — усё роўна праз слёзы, боль і смутак. Вельмі хочацца абняць іх і сказаць: "Мы — з вамі".

**Вольга ДУБОВІК.**

# Псіхолаг і сацыяльны педагог: канфрантацыя ці супрацоўніцтва?

***Усе, хто прачытаў гэтую назву артыкула ў выглядзе пытання, напэўна, адкажуць на яго такім чынам: "Канешне ж, супрацоўніцтва!". І з пункту гледжання разумнай логікі — гэта правільны адказ. Але што ж назіраецца ў рэальнай практыцы школьнага жыцця? Ці шмат знойдзецца прыкладаў сапраўды гарманічнай работы псіхолага і сацыяльнага педагога? Хутчэй за ўсё больш тыповай карцінай стане сітуацыя, калі псіхолаг і сацыяльны педагог працуюць па самастойных планах, узаемадзейнічаюць рэдка і ў асноўным у тых сітуацыях, калі існуе рэальнае распараджэнне адміністрацыі. Часцей здараецца так: сацыяльны педагог і псіхолаг у адной школе спрачаюцца наконт таго, хто якой работай павінен займацца.***

У чым адрозненне асноўных функцыянальных абавязкаў школьных спецыялістаў? Настаўнік у школе выконвае галоўную адукацыйную функцыю, перадае маладому пакаленню веды і сацыякультурны вопыт, назапашаны грамадствам. Менавіта настаўнік, у сілу спецыфікі адукацыйнай установы, праводзіць з вучнем найбольшую частку часу. У цэнтры ўвагі сацыяльнага педагога знаходзіцца сацыялізацыя дзіцяці, яго паспяховая інтэграцыя ў грамадства як альтэрнатыва адасабленню, выпаданню з нармальных сацыяльных узаемінаў (Социальная педагогика: Курс лекций. — М.Владос, 2000). Задача ж школьнага псіхолага — стварэнне сацыяльна-псіхалагічных умоў для паспяховага навучання і псіхалагічнага развіцця дзіцяці ў сітуацыях школьнага ўзаемадзеяння (М.Р.Битянова. Организация психологической работы в школе. — М.: Совершенство, 1997). Пры самым неглыбокім аналізе асноўных задач дзейнасці сацыяльнага педагога і педагога-псіхолага відавочна падабенства абавязкаў, звязаных з аказаннем дапамогі, падтрымкі дзіцяці з мэтай яго эфектыўнай сацыялізацыі ў грамадстве. Такое ж падабенства можна знайсці пры аналізе функцый, што выконваюцца гэтымі спецыялістамі: дыягнастычная, прагнастычная, карэкцыйна-рэабілітацыйная, папераджальна-прафілактычная і г.д.

Адрозненне, на мой погляд, у першую чаргу — у сродках, з дапамогай якіх выконваюцца гэтыя функцыі. Дзейнасць педагога-псіхолага арыентавана на своечасовае і паўнацэннае развіццё асобы кожнага вучня. Напрыклад, падчас работы са школьнікам псіхолаг спрабуе зразумець умовы, у якіх дзіця расце, асаблівасці сямейнага выхавання, вызначае перспектывы станаўлення асобы. На аснове гэтага аналізу псіхолаг можа распрацаваць сістэму ўмоў для яго паспяховага навучання і развіцця. Але рэалізаваць гэтыя ўмовы магчыма толькі пры арганізацыі цеснага супрацоўніцтва з настаўнікам, сацыяльным педагогам, сям'ёй. Дзейнасць сацыяльнага педагога накіравана на змяненне тых абставін у жыцці дзіцяці, якія характарызуюцца адсутнасцю чаго-небудзь, патрэбнасцю ў чым-небудзь. Зноў прыклад. Калі настаўнік канстатуе павышаную агрэсіўнасць дзіцяці, то псіхолаг вызначае прычыны павышанай агрэсіўнасці, механізм яе ўзнікнення, арганізуе кансультацыйную работу з бацькамі па ўсведамленні імі неэфектыўнасці механізмаў сямейнага выхавання, уключае дзіця ў сістэму карэкцыйных заняткаў; сацыяльны ж педагог можа дапамагчы дзіцяці знайсці прымальныя спосабы звесці да мінімуму агрэсію (спартыўныя гурткі, змяненне распарадку дня і г.д.) і таксама робіць захады па змяненні рэферэнтнай групы ў класе і па-за класам, паляпшэнні статуснага становішча дзіцяці праз далучэнне яго да актыўнага школьнага жыцця. У адрозненне ад псіхолага, сацыяльнаму педагогу нададзены функцыі кантролю за захаваннем правоў дзіцяці, ён з'яўляецца каардынатарам сумесных намаганняў супрацоўнікаў інспекцыі і камісіі па справах непаўналетніх, органаў аховы здароўя, іншых грамадскіх і дзяржаўных арганізацый; мае права звяртацца ў розныя грамадскія фонды з просьбай аказання матэрыяльнай падтрымкі малазабяспечаным сем'ям, хадайнічаць аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў. Псіхолаг жа працуе не толькі з праблемнымі сем'ямі і цяжкімі школьнікамі, а і стварае сістэму суправаджэння для ўсіх дзяцей школы, бо ў псіхалагічнай дапамозе мае патрэбу кожнае дзіця.

Можна сказаць, што псіхолаг працуе з унутраным светам, а сацыяльны педагог — у сферы "чалавек — чалавек". Але гэта не значыць, што псіхолагу неабавязкова выходзіць са свайго кабінета; здараюцца сітуацыі, калі і псіхолагу мэтазгодна разам з сацыяльным педагогам наведаць сям'ю школьніка, бо толькі ён зможа ацаніць сістэму ўзаемінаў, што склаліся, наяў-насць ці адсутнасць псіхалагічнага насілля над дзіцем. Нездарма ж у новым Крымінальна-працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь у частцы другой артыкулаў 221 і 435 прадугледжана абавязковая прысутнасць псіхолага на допытах і судовых пасяджэннях, у якіх удзельнічаюць непаўналетнія сведкі, што пацярпелі ці абвінавачваюцца.

У нашай краіне яшчэ не прынята Палажэнне аб школьнай псіхалагічнай службе. Але было б цудоўна, калі б адміністрацыя школ па сваёй ініцыятыве сфарміравала такую службу з ліку спецыялістаў, што адказваюць за псіхолага-педагагічнае суправаджэнне вучняў, якая б мела адзіны перспектыўны план. І менавіта гэта дало б магчымасць канкрэтна "развесці" службовыя абавязкі сацыяльнага педагога і педагога-псіхолага.

**Алена ОСІПАВА,**
**кіраўнік аддзела прыкладной педагагічнай псіхалогіі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.**

Падрабязнасці для "НГ"

# Другасную занятасць можна арганізаваць

***На базе Бабруйскага вышэйшага прафесійнага вучылішча будаўнічага профілю праведзены семінар намеснікаў дырэктараў па выхаваўчай рабоце навучальных устаноў Першамайскага раёна Бабруйска, супрацоўнікаў інспекцыі па справах непаўналетніх РАУС на тэму "Здаровы лад жыцця, арганізацыя другаснай занятасці", арганізаваны адміністрацыяй Першамайскага раёна Бабруйска.***

Адкрыў семінар намеснік кіраўніка адміністрацыі, старшыня камісіі па справах непаўналетніх Іван Кажамяка. У сваім выступленні ён ахарактарызаваў узровень выхаваўчай работы навучальных устаноў раёна па фарміраванні здаровага ладу жыцця і намеціў канкрэтныя задачы педагагічным калектывам на перспектыву. З дакладам "Бабруйскае вышэйшае прафесійнае вучылішча будаўнічага профілю ўчора, сёння, заўтра" выступіў дырэктар вучылішча Уладзімір Гурын.

Удзельнікі семінара агледзелі матэрыяльную і спартыўную базу вучылішча, наведалі ўрок фізічнай падрыхтоўкі. З дакладам "Выхаваўча-прафілактычная работа ў навучальнай установе і інтэрнаце" выступіў намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Пётр Пучко.

На семінары выступілі Аляксандр Падбярэзскі, вядучы спецыяліст Бабруйскага рэгіянальнага цэнтра занятасці, і Юрый Князеў, кандыдат медыцынскіх навук, урач-нарколаг наркадыспансера.

Для ўдзельнікаў семінара быў паказаны відэафільм аб вучылішчы, арганізавана выстава метадычных распрацовак па тэме "Арганізацыя выхаваўчай работы сярод навучэнцаў па прапагандзе здаровага ладу жыцця", а таксама вусны часопіс "Ці лёгка быць маладым", падрыхтаваны навучэнцамі вучылішча.

**Уладзімір СМЕРЦІН,**
**метадыст Бабруйскага Вышэйшага прафесійнага вучылішча будаўнікоў.**

Дзяржаўнае пытанне

# Хто ж ён, упаўнаважаны па правах дзіцяці?

***Праблемамі дзяцей аднначасова займаюцца розныя міністэрствы і ведамствы, паміж якімі нярэдка адсутнічае належная сувязь ці супрацоўніцтва. У выніку не ствараецца адзінай сістэмы паслуг і не складваецца цэласнага ўяўлення пра тое, якая ад іх рэальная карысць дзецям. У сусветнай практыцы існуе інстытут, які ў нейкай меры кансалідуе намаганні як дзяржавы, так і ўсяго грамадства ўвогуле на забеспячэнне і абарону правоў дзіцяці. Гаворка ідзе пра ведамства ўпаўнаважанага па правах дзіцяці.***

## Што павінна стаць ідэяй, здольнай вывесці нашу краіну на больш высокі ўзровень духоўнасці

Апошнім часам і на Беларусі пачало дыскутавацца пытанне аб увядзенні паста ўпаўнаважанага па правах дзіцяці ці, як прынята называць гэтую пасаду ў сусветнай практыцы, амбудсмена па правах дзіцяці. З'явіўся цэлы шэраг публікацый (С.Бубен, В.Калугін, Л.Смагіна і інш.), у якіх асэнсоўваецца вопыт работы ведамстваў амбудсмена па правах дзіцяці, абагульнены Міжнародным цэнтрам па праблемах развіцця дзіцяці ЮНІСЕФ.

Разглядаючы пытанне аб узнікненні, развіцці, функцыях амбудсменаў па правах дзіцяці, мы будзем абапірацца на гэтыя даследаванні.

Упершыню пасада амбудсмена па правах дзіцяці ўведзена ў Нарвегіі ў 1981 годзе. Цяпер інстытут амбудсмена па правах дзіцяці дзейнічае ў 19 краінах свету. У большасці краін колькасць спецыялістаў, якія працуюць у даным ведамстве, вагаецца ад 5 да 15 супрацоўнікаў. Структуры хоць і маюць некаторыя адрозненні, увогуле супадаюць — цэнтральная каардынуючая служба плюс рэгіянальныя прадстаўнікі плюс прадстаўнікі НПА.

У краінах СНД падобныя службы не створаны, хоць распрацоўка праекта Закона РБ "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці" (аб упаўнаважаным па правах дзіцяці)"" дае магчымасць спадзявацца на ўвядзенне такой пасады і на Беларусі.

Тэрмін "амбудсмен" — скандынаўскага паходжання, выкарыстоўваецца незалежна ад полу. Сінонімамі выступаюць "упаўнаважаны па правах дзіцяці", "камісар па правах дзіцяці".

На думку вучняў 6 — 8 класаў школ Брэста, студэнтаў педагагічнага і філалагічнага факультэтаў БрДУ, ніводны з гэтых тэрмінаў у разуменні дзяцей на адлюстроўвае сутнасці гэтай пасады. Тэрмін "амбудсмен" не ўласцівы для ўсходнеславянскай артыкуляцыі і таму складаны для ўжывання; тэрміны "упаўнаважаны" і "камісар" асацыіруюцца з ваенна-міліцэйскай тэрміналогіяй, што перашкаджае паўнацэннаму дзіцячаму ўспрыняццю данай пасады.

Адмоўна паставіліся падлеткі і да такой назвы ведамства, якое абараняе правы дзіцяці, як "камісія па правах дзіцяці". На іх думку, гэтая назва падобная на назву "камісія па справах непаўналетніх", якая асацыіруецца з месцам, дзе не абараняецца, а караецца дзіця.

Падлеткі прапанавалі свае варыянты назваў — "абаронца правоў дзяцей", "дзіцячы правазнаўца", "сябра дзяцінства". Напэўна, ствараючы службу для дзяцей і дзеля дзяцей, варта больш уважліва, з улікам асаблівасцей дзіцячага ўспрыняцця, аднесціся да яе назвы.

Пасада амбудсмена па правах дзіцяці вызначаецца як "незалежны заканадаўча замацаваны орган, створаны для адстойвання правоў і інтарэсаў дзіцяці". У шырокім сэнсе пад гэтае азначэнне трапляюць і "заснаваныя не заканадаўчым шляхам няўрадавыя арганізацыі". Падобны падыход прама ўказвае, што абарона правоў дзіцяці — справа не толькі дзяржавы, але і ўсяго грамадства наогул.

Увядзенне пасады ўпаўнаважанага менавіта па правах дзіцяці матывуецца тым, што:

* праблемы дзяцей часта спецыфічныя і адрозніваюцца ад праблем дарослых;

* характар правоў дзіцяці і механізмы захавання гэтых правоў таксама адрозніваюцца ад дарослых;

* дзіця не ведае пра пасаду дарослага амбудсмена і не мае магчымасці звяртацца да яго.

Разгляд пытання аб прававым статусе дае магчымасць выявіць найбольш эфектыўны механізм дзейнасці амбудсмена па правах дзіцяці з пазіцый яго незалежнасці.

У сусветнай практыцы існуюць чатыры падыходы да стварэння ведамства амбудсмена па правах дзіцяці:

1. Амбудсмены, уведзеныя спецыяльным законам, які прымаецца парламентам. Такая форма заснавання гэтага ведамства прынята ў большасці краін (Нарвегія, Швецыя, Ісландыя, Французская абшчына Бельгіі, Гватэмала, Коста-Рыка, Перу, Люксембург і інш.).

Асаблівацю гэтага падыходу з'яўляецца: адсутнасць залежнасці ад урада; падпарадкаванасць і справаздачнасць перад парламентам; наяўнасць права правядзення незалежных расследаванняў па фактах парушэння правоў дзіцяці; магчымасць доступу да любых дакументаў у выпадках, якія закранаюць інтарэсы дзяцей; падрыхтоўка дакладаў ураду; удзел у распрацоўцы заканадаўства па пытаннях, якія закранаюць інтарэсы дзіцяці.

У некаторых краінах падобныя ведамствы маюць права заканадаўчай ініцыятывы.

2. Амбудсмены, уведзеныя ў адпаведнасці з заканадаўствам аб абароне дзяцінства. (Новая Зеландыя, Аўстралія, Канада (правінцыя Антарыа).

Асноўная функцыя гэтай групы ведамстваў — выкананне і кантроль за выкананнем адпаведнага закона. Фінансаванне ажыццяўляецца за кошт дзяржавы. Ведамствы часта ўключаюцца ў тыя ці іншыя дзяржаўныя структуры, дзейнасць якіх служба амбудсмена па правах дзіцяці і абавязана кантраляваць. Гэта звужае магчымасці службы абароны дзяцей, стварае пэўную яе залежнасць.

3. Ведамствы амбудсмена, уведзеныя і дзеючыя пад эгідай адпаведных дзяржаўных органаў. (Ізраіль, фламандская частка Бельгіі, Канада (правінцыя Брытанская Калумбія), Іспанія, Данія, Германія).

Асноўныя характарыстыкі гэтых ведамстваў:

* не маюць заканадаўча замацаваных паўнамоцтваў, таму што заснаваны не на заканадаўчай аснове, а па рашэнні ўрада і падсправаздачныя яму;

* дзейнасць праходзіць у рамках таго ці іншага міністэрства або іншай дзяржаўнай службы;

* ведамасная залежнасць;

* часта абмежаваны доступ да неабходнай інфармацыі.

Заснаваныя падобным чынам ведамствы не маюць магчымасці вырашаць праблемы дзяцінства на заканадаўчым узроўні, сфера дзейнасці звужана асветніцкай работай, аказаннем кансультацый дзецям, кантраляваннем аналагічных структур на рэгіянальных узроўнях.

Крыху іншы падыход быў выкарыстаны ў Германіі. У 1987 годзе пры камітэтах бундэстага па правах жанчын і моладзі і па праблемах сям'і і састарэлых грамадзян пачала работу Камісія па справах дзяцей. Задачамі камісіі з'яўляецца прадстаўленне інтарэсаў дзяцей у парламенце, унясенне прапаноў па пытаннях палітыкі ў дачыненні да рэалізацыі і абароны правоў дзіцяці.

4. Амбудсмены, прызначаныя няўрадавымі арганізацыямі і якія працуюць пад іх эгідай.

Удзел грамадскіх арганізацый у дзейнасці па абароне дзяцей становіцца ўсё больш пашыранай з'явай. Часцей за ўсё няўрадавыя арганізацыі займаюцца менавіта сацыяльнай абаронай дзяцінства і не заяўляюць пра сябе як амбудсменаў па правах дзіцяці. Таму асабліва цікавы вопыт работы Манергеймаўскай лігі садзейнічання абароне дзяцінства (Фінляндыя) і Нацыянальнага савета па абароне дзяцінства (Ізраіль). Фінанасаванне дзейнасці гэтых арганізацый ажыццяўляецца за кошт прыватных фондаў, што дае фінансавую незалежнасць і пэўную свабоду дзеянняў у аналізе і кантролі за дзейнасцю ўрада і дзяржаўных службаў па пытаннях, якія тычацца інтарэсаў дзяцей.

"Камбінаваны, ці дынамічны" падыход, згодна з якім "у залежнасці ад развіцця дзяржавы і грамадства будуць змяняцца статус, функцыі, структура службы абароны дзяцінства" — прапануе беларускі даследчык Л.І.Смагіна.

Патрэбна адзначыць, што існуюць розныя падыходы ў вызначэнні прыярытэтаў пры выбары аб'екта дзейнасці.

У некаторых краінах (Канада, Фінляндыя, Ізраіль, Аўстрыя, Бельгія, Перу) прыярытэт у дзейнасці амбудсмена па правах дзіцяці аддаецца абароне пераважна правоў канкрэтнага дзіцяці і прадстаўніцтва яго інтарэсаў.

Другая група краін (Нарвегія, Новая Зеландыя, Паўднёвая Аўстралія, франкамоўная частка Бельгіі, Коста-Рыка) пайшла па шляху сумяшчэння ў дзейнасці амбудсмена па правах дзіцяці абароны інтарэсаў як канкрэтных дзяцей, так і дзяцей наогул.

Дзейнасць у інтарэсах дзяцей увогуле без ажыццяўлення індывідуальнага прадстаўніцтва ўласціва ведамствам упаўнаважанага па правах дзіцяці трэцяй групы (Швецыя, Ісландыя, Данія, Германія).

Якая б прававая аснова ні была падведзена пад стварэнне ведамства амбудсмена па правах дзіцяці, асноўнай мэтай гэтага інстытута з'яўляецца "ўсебаковае садзейнічанне рэалізацыі і абароне правоў дзіцяці".

Зыходзячы з мэты, можна вылучыць задачы, якія ў той ці іншай ступені вырашаюць ведамствы амбудсмена па правах дзіцяці. Назаву асноўныя:

* аналіз становішча дзяцей у краіне;

* выпрацоўка на аснове аналізу канкрэтнай праграмы дзеянняў, накіраваных на паляпшэнне становішча дзяцей;

* прадстаўленне аналітычных матэрыялаў, якія датычаць дзяцінства, у ведамствы і арганізацыі з мэтай інфармавання аб праблемах дзяцей;

* арганізацыя ўзаемадзеяння з рознымі ведамствамі і арганізацыямі па пытаннях абароны дзяцей;

* правядзенне маніторынгу заканадаўства, якое датычыць праблем мацярынства, сям'і, дзяцей;

* выпрацоўка пэўнай палітыкі і правядзенне яе ў жыццё ў мэтах больш поўнага захавання правоў дзяцей;

* шырокае інфармаванне грамадскасці аб міжнародных і нацыянальных дакументах па абароне правоў дзіцяці;

Аналіз міжнароднага вопыту паказаў, што сярод задач, якія вырашае ведамства амбудсмена па правах дзіцяці, практычна адсутнічаюць пытанні прававога ўрэгулявання парушэння правоў дзіцяці. Пры парушэнні правоў дарослага чалавека пакаранне парушальніка права ажыццяўляецца часта шляхам кампенсацыі маральнай шкоды (фізічнай і маральнай пакуты) у форме грашовай кампенсацыі. Для дзіцяці (асабліва малодшага ўзросту) такая форма — зусім не кампенсаторны сродак. На жаль, дарослыя, парушаючы правы дзіцяці, застаюцца практычна беспакаранымі. "Спробы вырашыць юрыдычнае пытанне кампенсацыі парушанага права ў частцы, якая ўяўляе сабой нематэрыяльную страту дзіцяці, пакуль не ўдаліся".

Відаць, задача распрацоўкі праблемы пакарання за парушэнне правоў дзіцяці, разгляду парушэння правоў дзіцяці як сур'ёзнага проціпраўнага дзеяння будзе з'яўляцца адной з прыярытэтных для ведамстваў амбудсмена па правах дзіцяці ў наступным стагоддзі.

Пры ўвядзенні пасады ўпаўнаважанага па правах дзіцяці ў Беларусі было б мэтазгодна стварыць незалежную, шматузроўневую, пазаведамасную службу, якая каардынавала б дзейнасць усіх зацікаўленых структур, вырашала б стратэгічныя пытанні ажыццяўлення і абароны правоў дзіцяці. Упаўнаважаны па правах дзіцяці можа ўваходзіць у састаў Нацыянальнай камісіі па правах дзіцяці, але быць асобай незалежнай. У рабоце з канкрэтным дзіцем служба "дзіцячага амбудсмена" магла б абапірацца на структуры па абароне правоў дзіцяці, створаныя ў рамках Міністэрства адукацыі. Пажадана, каб міністэрства перагледзела назву пасады, таму што фармулёўка "інспектар па абароне правоў дзяцінства" не зусім карэктная з прычыны таго, што дзяцінства — гэта перыяд у развіцці дзіцяці. Больш правамерна назваць пасаду "спецыяліст па абароне правоў дзіцяці".

Не менш важным з'яўляецца і пытанне аб кадрах, якія працуюць у ведамстве ўпаўнаважанага па правах дзіцяці. Раней згадвалася, што праблемы абароны правоў дзіцяці вырашаюцца цэлым шэрагам спецыялістаў. Задачы, пра якія гаварылася вышэй, носяць комплексны характар, і гэта прад'яўляе пэўныя патрабаванні да прафесійных якасцей і зместу падрыхтоўкі спецыялістаў. Даная праблема патрабуе больш глыбокага асэнсавання, але не менш хуткага і вырашэння, бо ад прафесійнай кампетэнтнасці прадстаўнікоў ведамства ўпаўнаважанага па правах дзіцяці будзе шмат у чым залежаць паспяховасць абароны правоў дзіцяці.

Гуманныя адносіны да дзяцей павінны стаць "паказчыкам маральнасці грамадства, паказчыкам цывілізаванасці яго развіцця".

Рэалізацыя правоў дзяцей, новая этыка стаўлення да дзіцяці і павінны стаць ідэяй, здольнай аб'яднаць нацыю, вывесці Рэспубліку Беларусь на больш высокі віток духоўнасці.

**Тамара СЦЯПАНАВА,**
**старшы выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.**

# Фізіка плюс камп'ютэр

Калі ў другой шчучынскай школе адкрылі ліцэйскія класы, то выкладаць асобныя курсы ў іх запрасілі выкладчыкаў з Гродзенскага універсітэта. Але ўзнікшыя ў сувязі з камандзіроўкамі перашкоды зрабілі гэтую працу амаль немагчымай. Тады дацэнты кафедры фізікі Мікалай Віктаравіч Мацецкі і Аляксандр Віктаравіч Нікіцін прапанавалі правесці ў школе эксперымент па дыстанцыйнаму навучанню дзяцей. Так нарадзілася праграма "Фізіка плюс камп'ютэр".

Згодна з гэтым, на працягу года дзеці, якія цікавіліся фізікай і добра ведалі камп'ютэр, атрымлівалі па мадэмнай сувязі заданні ад сваіх настаўнікаў з універсітэта. Выкананыя заданні, таксама па электроннай пошце, адсылаліся ў Гродна для праверкі. На наступны год вучням прапанавалі ўжо самім, сумесна са школьнымі настаўнікамі, распрацоўваць заданні для вучняў школ Ліды, Ваўкавыска, Зельвы, Слоніма, якія на гэты час далучыліся да праекта. У сваю чаргу кожная школа прапануе астатнім свае заданні.

Каардынатарам праекта з'яўляецца загадчык Шчучынскага аддзела адукацыі Мікалай Іванавіч Ермак. Сёння, як паведаміў ён, практычна ўжо вырашана пытанне аб падключэнні гэтых школ да Інтэрнета, дзе вучні будуць удзельнічаць у англійскім навучальным праекце "Я вучуся". Гэта будзе новы этап, які дазволіць удзельнічаць у ім дзецям, што цікавяцца не толькі фізікай, але і іншымі дысцыплінамі.

На працягу года ў раёне пашырыцца і мадэмная сетка, што дасць магчымасць далучыцца да праекта дзецям і з некаторых іншых вясковых школ.

НА ЗДЫМКАХ: Вадзім Раўкін і Сяргей Чашчавік адсылаюць заданне па электроннай пошце; выкладчыца інфарматыкі Жанна Іванаўна Мяцько рыхтуе заданне для рассылкі

**Юрый БОНДАРАЎ.**

Педагагічная майстэрня

# Інтэлектуальная гульня з хімічным зместам

***Гэтая гульня прыдумана членамі Светлагорскага клуба "Што? Дзе? Калі?". Дзвюм камандам прапануецца 12 пытанняў. Права першага адказу атрымлівае тая каманда, якая хутчэй уздыме руку. За кожны правільны адказ каманда атрымлівае адзін жэтон. Калі назбіраецца пэўная колькасць жэтонаў, каманда мае права рабіць стаўку на пытанне. У выпадку правільнага адказу каманда атрымлівае столькі жэтонаў, колькі паставіла на пытанне, а ў выпадку няправільнага адказу страчвае ўсе пастаўленыя жэтоны. Напрыклад, каманда мае 5 жэтонаў, а на пытанне яна паставіла 3. Пры правільным адказе яна атрымае тры жэтоны, г.зн. у яе будзе 8 жэтонаў, пры няправільным адказе яна страчвае 3 жэтоны, і ў яе застаецца толькі 2 і г.д.***

Можна даць камандам "першапачатковы капітал", напрыклад, па 5 жэтонаў. Можна разыграць права першага ходу па жэрабю і адказваць на пытанні па чарзе. Дарэчы, у гульні адначасова могуць удзельнічаць і 3 каманды. У пачатку, у сярэдзіне і напрыканцы гульні можна прадэманстраваць цікавыя эксперыменты па хіміі, дзеці могуць выканаць хімічныя прыпеўкі, паказаць інсцэніроўку вясёлай рэкламы і г.д.

Гульня "Азартны тузін" можа быць праведзена як пазакласнае мерапрыемства, можна правесці яе і як нестандартны ўрок.

Хімічны "Азартны тузін"
(11 клас)
Тэма: Металы

1. Пры 37 градусах многія фізічныя ўласцівасці хрому скачкападобна змяняюцца. Прычына анамаліі? (Невядома).

2. Нязначныя прымесі робяць гэты метал крохкім, але варта яго дабавіць да сталі, як яна набывае ўстойлівасць да карозіі. (Хром).

3. Як мы называем элемент, які нашы продкі называлі "смігда"? (Медзь).

4. Гэты сплаў вельмі падобны на золата, але на паверхні яго з'яўляюцца зеленаватыя "язвы" і "сып". (Латунь)

5. Што выраблялі па гэтым рэцэпце: "Вазьмі сыр казіны ды пакладзі паміж праснака, ды пакладзі ў медную пасудзіну... і закрый меддзю. Запячатай цестам і пастаў у печ на 3 дні"? (Фарба яр-мядзянка)

6. Акадэмік Ферсман пісаў, што пры адсутнасці гэтага металу "... на вуліцах стаяў бы жах разбурэння: ні рэльсаў, ні вагонаў, ні аўтамабіляў, камяні маставой ператвараюцца ў пацяруху, расліны пачынаюць сохнуць". Дарэчы, чалавек бы гэтага не заўважыў, бо калі б пазбавіўся трох грамаў гэтага металу, то адразу ж бы памёр. (Жалеза)

### Медыум

Пасля адказу на 6 пытанне можна даць гульцам адпачыць: паказаць цікавы эксперымент па хіміі, пачытаць вершы пра хімічныя элементы і г.д.

7. З пункту гледжання хіміка які выраз больш правільны: "Ты мой залаты?" ці "Ты мая залатая?" (У арганізме жанчын золата ў сярэднім у 5-6 разоў больш, чым у арганізме мужчын).

8. Назва якога элемента ў перакладзе з шумерскай мовы азначае "які капнуў з неба, нябесны". (Жалеза)

9. Падчас паходу Аляксандра Македонскага ў Індыю афіцэры радзей пакутавалі на страўнікава-кішэчныя захворванні, чым салдаты. Чаму? (Афіцэры карысталіся посудам, выраблены́м з серабра)

10. Чаму большасць археалагічных знаходак адносяцца да "бронзавага стагоддзя", а не да меднага? (Бронза больш устойлівая на паветры)

11. Гісторык Пліній Старшы сцвярджае, што нейкі ювелір зрабіў імператару Ціберыю лёгкую серабрыстую чашу з невядомага металу. Імператар загадаў забіць майстра, бо пабаяўся, што абясцэніцца яго золата і серабро. Пра які метал ідзе гаворка? (Алюміній)

12. Гавораць, што ад грэчаскай назвы гэтага металу ўтварылася назва вострава Кіпр. (Медзь)

**Галіна КАПЕЦКАЯ,**
**настаўніца хіміі гімназіі Светлагорска.**

Раіць псіхолаг

# "Праганялкі стамілак"

**Некалькі практыкаванняў, якія дазваляюць пазбавіцца стомленасці на ўроку**

Вельмі часта нашы дзеці адчуваюць слабасць, стомленасць, нервовасць. Многія вучні ў школе пастаянна адчуваюць перанапружанне як фізічнае, так і псіхічнае. У выніку парушаецца абмен рэчываў і пагаршаецца мазгавы кровазварот. Можна дапамагчы дзецям паспяхова працаваць на ўроку, зрабіць урок лёгкім, ператварыць яго ў радаснае спасціжэнне свету. Пры стомленасці з'яўляюцца "стамілкі" — сухасць у роце, непрыемныя адчуванні ў галаве і жываце, санлівасць. Вам дапамогуць "праганялкі стамілак", "ажыўлялкі", якія прыводзяць усё ў норму. Боль і сухасць у роце пройдуць, і галава стане свежай.

### Ажыўлялка 1.

Складзіце далоні перад грудзьмі пальцамі ўверх, не дыхайце, сцісніце з усёй сілай аснаванне далоняў, каб рукі задрыжалі. Пры гэтым уцягніце жывот і пацягніцеся ўверх. Быццам вы, абапіраючыся на падаконнік, выглядваеце з акна. Усяго 5 — 10 секунд — і стала горача, ці не так? Паўтарыце 2-3 разы, каб у роце стала вільготна.

### Ажыўлялка 2.

Складзіце рукі ў замок, абхапіце імі патыліцу, накіруйце локці ўперад. Пацягніце галаву да локцяў. Асцярожна, не адарвіце! Цягніце асцярожна, каб было прыемна, 10 — 15 секунд.

### Ажыўлялка 3.

Разатрыце добра вушы — спачатку мочкі, а потым цалкам, далонямі ўверх — уніз, уперад — назад, 20 — 30 секунд.

### Ажыўлялка 4.

Пацокайце языком, як конік, 10 — 15 секунд.

### Ажыўлялка 5.

"Варона". Гук "Ка-аааар". Пастарайцеся ўзняць як мага вышэй мяккае паднябенне і маленькі язычок — 6 разоў. Паспрабуйце рабіць гэта бязгучна і са сціснутым ротам.

### Ажыўлялка 6.

"Леў". Дацягніцеся языком да падбародка. Яшчэ далей... Ну, яшчэ крышачку! Паўтарыць 6 разоў.

### Ажыўлялка 7.

Усміхніцеся і дазвольце дзецям пасмяяцца. Для гэтага дастаткова націснуць на "рагатальнае" месца (яно на кончыку носа) і вымаўляць "рагатальныя" гукі "ха-ха-ха" — спачатку павольна, потым хутчэй. Памятайце: смяюцца пераможцы! Але, магчыма, яны перамаглі таму, што смяяліся.

### Ажыўлялка 8.

Хутка-хутка сціскаем вочы і расціскаем пальцы рук і міргаем, потым моцна заплюшчваем вочы, сціскаем кулакі і гаворым: "Я спраўлюся! Я магу, чалавек усё можа! Я нічога не баюся!" Як хочаце — уголас ці моўчкі.

**Аксана ЖУРАЎСКАЯ,**
**псіхолаг Гродзенскага вучылішча мастацтваў.**

# Прыхаваная пагроза

***Духоўны вакуум у грамадстве і жыцці асобнага сучаснага чалавека запаўняецца не толькі культурай, традыцыйнай рэлігіяй. Праз радыё, тэлебачанне і іншыя сродкі масавай інфармацыі ідзе інтэнсіўнае ўкараненне ў грамадства квазірэлігійнай веры. Прадастаўленне кожнаму грамадзяніну ці арганізацыі магчымасці для выяўлення сваіх інтарэсаў, даступнасць і адкрытасць інфармацыі аб усіх сферах жыцця павярнулася для грамадства адраджэннем ужо забытых сярэдневяковых "вынаходніцтваў" — хіраманты, кабалістыкі, алхіміі, магіі, астралогіі, а таксама элементаў усходніх вераванняў. Усё гэта, разам з цэлым наборам псеўдарэлігійных сектаў, негатыўна ўплывае на выхаванне маладога пакалення.***

Лёгкае захапленне акультызмам старэйшага пакалення пакідае глыбокі след у свядомасці маладога чалавека. Эканамічныя, палітычныя, сацыяльныя катастрофы, экалагічны крызіс, што развіўся ў выніку фарсіраванага развіцця навукі і тэхнікі, падштурхоўваюць людзей да вырашэння праблем нейкім нетрадыцыйным спосабам. З'явіліся выказванні, што "мы павінны звярнуцца да сваіх каранёў і абаперціся на містычны элемент у чалавеку". Праз сродкі масавай інфармацыі такія сцвярджэнні шырока распаўсюджваюцца. Сёння выдаецца шмат літаратуры з апісаннем розным спосабаў, захадаў, методык, якія павінны дапамагчы чалавеку. Многія, напэўна, памятаюць тэлевізійныя сеансы Кашпіроўскага, Чумака і іншых "лекараў". А такія з'явы, як аўтатрэнінг, аўтагенез, астралогія, медытацыя, спірытызм распачалі сапраўднае пераможнае шэсце па ўсёй краіне.

Захапленне людзей містыкай і акультызмам невыпадковае. За гэтым стаяць намаганні пэўных колаў у рамках руху "нью-эйдж", што азначае "новая эпоха". Гэтае паняцце пераняiта з астралогіі, а рух уяўляе сабой сумесь усемагчымых накірункаў акультызму. Тут экзатычным чынам пераплецена ўсё, што неяк звязана са звышнатуральным, забабонамі, шанаваннем прыроды: парапсіхалогія, парамедыцына, медытацыя, усходнія рэлігіі, антрапасофія, спірытызм, наркотыкі, прадказанні, магія, культ ведзьмаў і многае іншые. Ад маладых людзей сёння часта можна пачуць словы з лексікона паслядоўнікаў "нью-эйдж": "энергетыка", "аўра", "трэцяе вока", "касмічная энергія", "энергетычныя каналы", "чакры", "энергетычныя вампіры".

Мерылін Фергюсон — адна з лідэраў руху "нью-эйдж" — у сваёй кнізе "Мяккая змова" адкрыта гаворыць пра метады "прамывання мазгоў", што прымяняюцца рухам: "Уздзеянне адбываецца праз газетныя артыкулы, тэле- і радыёперадачы, фільмы, музыку, жывапіс, абмеркаванне ў навуковых часопісах, дакладах, праз уплыў настаўнікаў на школьнікаў і праз дыскусіі ў размовах за кавай. Таксама праз дыетолагаў, даведнікі па такіх тэмах, як спорт, здароўе, кіраванне эканомікай, самаабарона, стрэс, міжасабовыя ўзаеміны і самаўдасканаленне, праз розныя курсы". Усё гэта знаходзіць пацвярджэнне ў нашым жыцці. Калі прааналізаваць тыднёвую праграму тэлеперадач, то можна жахнуцца: практычна кожны дзень сучасны школьнік бачыць па тэлевізары прапаганду містыкі, паранамальных з'яў, вядзьмарства і г.д. Сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя ў школах, паказваюць, што сярод вучняў назіраецца ўплыў вераванняў, пераняiтых з вучэнняў неакультаў, усходніх і язычніцкіх рэлігій. Вялікая колькасць старэйшых школьнікаў верыць у існаванне звышнатуральных сіл, у перасяленне душ, касмічны розум, астралогію, змовы, сурокі.

Значны ўплыў на моладзь аказвае музыка. Гэта яшчэ адна з магчымасцяў прапаганды новых рэлігій. Музыка "нью-эйдж" мае псеўдадухоўны змест і прызначана для рэлаксацыі і медытацыі. Прыхільнікі гэтай музыкі гавораць, што яна быццам прыйшла з Індыі, а туды трапіла з космасу.

У сучасным грамадстве, асабліва сярод моладзі, выразна адчуваецца ўплыў акультнай рэлігіі, якая варожая традыцыйнаму для Беларусі хрысціянству. Неарэлігійныя арганізацыі праводзяць работу па дыскрэдытацыі класічнай навукі, накіраваную на разбурэнне рэлігіі ў Беларусі, спрабуюць знішчыць рэлігійную маральнасць. Паводле сцвярджэння ламы А.Гавінда: "Мараль — не мэта, а другасны прадукт рэлігіі. Атаясамліванне рэлігіі з мараллю — адна з самых трагічных памылак чалавецтва. Гэта прыніжае рэлігію да ўзроўню вузкалобага пурытанства". Відавочна, што каментарыі тут залішнія.

У сувязі з гэтым педагогам неабходна вельмі асцярожна падыходзіць да выкарыстання ў сваёй рабоце экзатычнай тэрміналогіі, каб не стаць міжволі рэкламай далёкай нашаму народу з'явы. А такая ўтоеная небяспека існуе. Перш чым выкарыстоўваць новае слова ў дзіцячым калектыве, трэба даведацца, што яно азначае, адкуль утварылася, што за ім стаіць.

Распаўсюджванню неакультаў сярод навучэнцаў садзейнічае і элементарная непісьменнасць педагогаў у пытаннях рэлігіі. На жаль, і сярод работнікаў адукацыі можна сустрэць людзей, якія захапляюцца акультызмам і нясуць усё гэта ў школу, каледж, ВНУ. Таму наспела неабходнасць правядзення мерапрыемстваў па шырокай інфармаванасці грамадства, увядзенні ў навучальных установах асветніцкай работы па рэлігіязнаўству.

Сёння існуе пагроза, што малады чалавек, які ледзь толькі ўвайшоў у дарослае жыццё, можа быць падмануты сектантамі, якія ўтойваюць сапраўдную мэту сваёй дзейнасці. І пакуль на гэта не звернуць сур'ёзнай увагі адпаведныя дзяржаўныя органы, пераможнае "шэсце" "нью-эйдж" будзе працягвацца.

**Мікалай СІНКЕВІЧ,**
**намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце Дараганаўскай санаторнай школы-інтэрната.**

Мая школа — мой гонар

# Дрэвы помняць...

Чвэрць стагоддзя кожную раніцу я іду на працу ў сваю родную трэцюю школу праз сквер, які раскінуўся на перакрыжаванні вуліц Дзекабрыстаў і Парашутнай. Гэтае месца прыгожае ў любую пару года. Летам сквер звініць ад дзіцячых галасоў, маладыя маці гуляюць тут са сваімі дзеткамі. У цені дрэў прыемна пачытаць кнігу альбо пагутарыць з сяброўкай у той час, калі тваё немаўля салодка спіць у калясцы, залюлянае пагойдваннем таполяў і бяроз. А калі расцвітаюць ліпы, можна піць гарбату ўпрыкуску з гаючым мядовым водарам, якім напоена ўсё наваколле.

У верасні чараўніца-восень бярэцца за фарбы, і дрэвы апранаюцца ў барвовую і бурштынавую святочную вопратку. І зноў у скверы весела: вучні нашай школы займаюцца тут бегам і здаюць спартыўныя нарматывы.

Сумна становіцца ў канцы кастрычніка, калі дуе калючы вецер, а дрэвы стаяць задуменныя ў чаканні хуткай зімы. Прыходзяць тады думкі і аб сваім лёсе: колькі яшчэ адмерана на гэтым свеце і што застанецца пасля таго, калі цябе, як самотны кляновы лісток, забярэ ў тваё апошняе прыстанішча маці-зямля...

Але сквер не доўга сумуе. У снежні ён напаўняецца птушынымі спевамі: з поўначы да нас прылятаюць амялушкі — чубаценькія птушкі з жоўтай грудкай. Яны весела ціўкаюць, стайкамі пералятаючы з дрэва на дрэва, і ласуюцца ліпавым насеннем ды гронкамі рабіны. Зрэдку чуецца стук дзятла. А ў лютым здараецца так, што, пачуўшы ціўканне незнаёмых птушак, глянеш уверх і замрэш зачараваны: паміж заснежаных таполяў яркімі пунцовымі ружамі квітнеюць прыгажуны-снегіры. І стаіш у захапленні, баючыся спужаць цудоўных птушак, а ў застылай душы цяплее ад гэтага хараства. І так хочацца, каб нашы ўнукі і праўнукі змаглі пабачыць гэты цуд матулі-прыроды, які знаходзіцца ўсяго ў двух прыпынках ад цэнтра Мінска.

Вясной галінкі дрэў набухаюць клейкімі пупышкамі. Як прыемна тады перад урокамі пасядзець хвілін дзесяць на сонейку, слухаючы спеў шпака, які толькі што прыляцеў з далёкіх краёў і, не паспеўшы перайсці на родную мову, спявае па-іншаземнаму. Шпак — вялікі перасмешнік, і можна толькі здагадвацца, якіх заморскіх звяроў і птушак ён перадражнівае. І думаецца тады па-вясennяму: хочацца жыць, працаваць і пакінуць пасля сябе нейкі след на зямлі...

Цяпер ужо мала хто ведае, што гэты сквер быў пасаджаны ў 1937-38 гадах вучнямі нашай трэцяй школы. За два гады яны пасадзілі больш сотні дрэў, даглядалі, палівалі іх. Праз тры гады грымнула вайна... Выпускнік нашай школы 1940 года Уладзімір Сцяпанавіч Валькові́ч успамінае: "22 чэрвеня 1941 года мы з сябрамі былі на адкрыцці Камсамольскага возера. Было цудоўнае надвор'е, людзі загаралі, купаліся. У 12 гадзін па радыё перадалі выступленне Молатава аб тым, што на нас напала фашысцкая Германія..."

Дрэвы, дрэвы, дзе ваша памяць? У глыбіні магутных ствалоў вашы першыя гадавыя кольцы захоўваюць цяпло далоняў тых юнакоў і дзяўчат, якія вас пасадзілі. Вось гэтую бярозку пасадзіў Леў Геллер. У 1942 годзе ён быў забіты ў Мінскім гета...

Гэтую магутную таполю пасадзіў Емяльянчык Ігар. Ён загінуў у партызанскім атрадзе...

Цябе, прыгажуня-ліпа, пасадзіў Шварц Станіслаў. Ён загінуў смерцю храбрых 12 мая 1945 года ў Берліне.

Ты, елачка, пасаджана Ботвічам. Нават імя яго мы не памятаем, а ты помніш... Мы толькі ведаем, што ў 1943 годзе хлопец скончыў Тамбоўскае лётнае вучылішча. У тым жа годзе ў жорсткім баі яго самалёт быў збіты ў трыццаці кіламетрах ад горада Славянска... А вось, побач са сцежкай, расце прыгажуня-бярозка. Мабыць асколкам фашысцкай авіябомбы ў яе адсекла вяршыню. Але дрэва не загінула: тры ствалы белымі свечкамі ўздымаюцца з параненага месца.

Яе, пэўна, пасадзіў Герой Савецкага Саюза Казімір Аркадзьевіч Шабан. 23 чэрвеня 1943 года ён здзейсніў першы баявы вылет на Курскай дузе. 3-га жніўня 1943 года яго самалёт быў падбіты ў паветраным баі. Ён змог пасадзіць самалёт на тэрыторыі, акупіраванай ворагам, і прабіўся ў размяшчэнне 49-й танкавай брыгады. Белгарад, Ахтырка, Сумы, Лебядзін, Кіеў, Жытомір — этапы яго баявога шляху. Дзень Перамогі сустрэў у чэшскім горадзе Брно. 9 ліпеня 1945 года пры здзяйсненні вучэбнага палёту, спрабуючы выратаваць баявы самалёт, у якім сапсаваліся маторы, загінуў...

Гэтыя выпускнікі нашай школы не паспелі пабудаваць дом і нарадзіць дзяцей. Яны аддалі свае жыцці за Радзіму, за нас з вамі. За тое, каб у іх роднай школе больш ніколі не было нямецкай канюшні. Кожны з іх паспеў пасадзіць дрэва. І цяпер з вышыні магутных таполяў і ліп яны, вечна юныя, пазіраюць на нас і шапаценнем галін пытаюцца: "Людзі, вы нас помніце?"

Школа свята беражэ памяць пра сваіх выпускнікоў. З 1977 года ў нас дзейнічае народны мемарыяльны музей Баявой Славы імя Героя Савецкага Саюза Казіміра Аркадзьевіча Шабана, які налічвае 429 экспанатаў асноўнага фонду. На фасадзе школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка яго памяці.

На жаль, у апошняе дзесяцігоддзе многія школы закрылі свае музеі, палічыўшы, што патрыятызм не падыходзіць для выхавання сучаснай моладзі.

У нашай школе стараннямі дырэктара Кізеевай Рэгіны Мітрафанаўны і загадчыцы музея Ракіцкай Таццяны Віктараўны экспазіцыя была не толькі захавана, але і пастаянна папаўняецца. На базе музея праводзяцца вучэбна-выхаваўчая і гераіка-патрыятычная работа, экскурсіі, сустрэчы з ветэранамі вайны і славутымі выпускнікамі. У лютым гэтага года ў мінскіх школах будзе праходзіць месячнік мужнасці. У трэцяй школе пройдзе шэраг цікавых мерапрыемстваў. У час акцыі "Моладзь — ветэранам" вучні будуць наведваць ветэранаў вайны і нашых даваенных выпускнікоў, запісваць іх успаміны і дапамагаць па гаспадарцы. На свяце "Сустрэча пакаленняў" адбудзецца канцэрт і ўручэнне падарункаў ветэранам. Будзе працаваць выстава "65 год школе". На базе нашай школы адбудзецца раённая прэс-канферэнцыя "Моладзь у адказе за лёс Айчыны". Будзем спадзявацца, што ўсё гэта паслужыць добрым штуршком для пачатку адраджэння патрыятычнага выхавання нашай змены.

Глядзіце ў бясконцае неба, прыгажуні-таполі, ліпы, елачкі, бярозкі. Квітнейце на радасць людзям! І не сумуйце: мы вас помнім.

**Аляксандр ВАШЧАНКА,**
**настаўнік сярэдняй школы № 3 Мінска.**

Мы і свет

# Трыумф "Чароўнасці" ў Германіі

***Як і прадракалі многія барысаўскія паклоннікі музыкі, акрылёнымі поспехам вярнуліся з нямецкага горада Эммерыха, дзе праходзіў фестываль арганнай і харавой музыкі, удзельнікі ўзорнага хору "Чароўнасць" Барысаўскай музычнай школы. Акрамя Эммерыха, у рамках фестывалю таленавітыя юнакі і дзяўчаты выступалі з сольнымі канцэртамі ў гарадах Вылінхаўзен, Везель, у культурным цэнтры "Замак Моўланд". І ўсюды, пачынаючы з першага выступлення, рэгіянальная прэса змяшчала самыя ўзнёслыя водгукі музычных крытыкаў.***

Аб тым, што "Чароўнасць" — унікальная з'ява, сведчаць не толькі спецыялісты. Арганізатары фестывалю не пазнавалі звычайна стрыманых нямецкіх гледачоў, якія рэагавалі на творчасць барысаўскіх талентаў надзвычай эмацыянальна: былі і слёзы захаплення ад выканання "Ave Maria" Гуно, і бурныя апладысменты, і воклічы хвалы.

У якасці дырыжораў дэбютавалі брат і сястра Дзяніс і Марта Мальцэвічы, студэнты Мінскага музычнага вучылішча. Удзячнасць знатакоў музыкі падзялілі са сваімі выхаванцамі кіраўнік хору Лілія Яўгенаўна Мальцэвіч, мастацкі кіраўнік і выкладчык класа вакалу Аляксей Пятровіч Мальцэвіч, канцэртмайстры Ірына Альбертаўна Шакура і Алена Вадзімаўна Шульга. Апошняя да таго ж з поспехам выступіла з сольнай арганнай праграмай.

Прыём быў настолькі цёплым, настолькі сяброўскім, што членам дэлегацыі з нашага горада надоўга хопіць уражанняў. Шмат дзяцей нямецкія сябры запрасілі на летні адпачынак у Германію. А галоўнае, у "Чароўнасці", натхнёнай новым поспехам, з'явілася яшчэ больш моцнае жаданне ўдасканальваць майстэрства, не спыняцца на дасягнутым. Да таго ж, у канцы сакавіка гэты хор чакае выпрабаванне — абарона звання ўзорнага. Паспрабую зрабіць адзін прагноз, мяркую, удалы: "Чароўнасць" у чарговы раз зачаруе гледачоў.

**Алена РАМАНАВА.**

Школьныя будні

# Узбагачэнне ведамі і мудрасцю жыцця

***Капыльская сярэдняя школа № 2 імя Ц.Гартнага — адна з лепшых у раёне. Яе вопыт вядомы далёка за межамі сталічнай вобласці. У гэтай школе працуюць 104 педагогі — і кожны з іх па-свойму таленавіты, мае свой творчы почырк і непаўторны педагагічны стыль навучання і выхавання падлеткаў. "Школай Багдановіча" называлі доўгія гады сярэднюю школу № 2 Капыля. Апошняе дзесяцігоддзе школу ўзначальвае падзвіжнік, інтэлігент высокага кшталту Аляксандр Іванавіч Саладуха, і школа не страціла свой прэстыж. Яна працуе ў інавацыйным рэжыме, педагогі шчыруюць над укараненнем у вучэбна-выхаваўчы працэс новых педагагічных тэхналогій.***

Педагагічны калектыў школы працуе творча. 50 працэнтаў педагогаў маюць вышэйшую і першую кваліфікацыйныя катэгорыі. З кожным годам калектыў настаўнікаў папаўняецца маладымі спецыялістамі і вельмі часта — сваімі выпускнікамі. Такіх 33 чалавекі, якія ў школе былі выдатнымі вучнямі, а ў якасці настаўнікаў зарэкамендавалі сябе з самага лепшага боку. Іх урокі вызначаюцца добрасумленнай падрыхтоўкай, яны маюць добрую тэарэтычную падрыхтоўку і навыкі адказна працаваць. Гэта такія маладыя настаўнікі і выхавальнікі, як А.А.Даніле́віч, Н.У.Скрыпінская, а таксама Т.М.Давідоўская, Т.У.Буяноўская. Менавіта таму сярод удзельнікаў конкурсу "Настаўнік года" ад нашай школы была настаўніца пачатковых класаў І.Г.Астрэйка, таксама наша выпускніца, якая смела і адказна працуе з дзецьмі па новай тэхналогіі.

Пачатковая школа ўжо другі год працуе ва ўмовах рэформы агульнаадукацыйнай школы. Падрыхтоўчыя класы працавалі на базе дзіцячых садкоў № 51 і № 5 у двух падрыхтоўчых класах, а таксама ў першым класе выкарыстоўвалася тэхналогія "Крок за крокам". Дзеці гэтых класаў выдзяляюцца лепшай арганізаванасцю, уменнем самастойна працаваць, ставіць і рашаць вучэбныя задачы, уменнем слухаць адзін аднаго. Вынікі навучання па гэтай методыцы даволі станоўчыя — усе вучні займаюцца на "4" і "5", 7 чалавек чытаюць больш 70 слоў у хвіліну. У 2000-2001 навучальным годзе будзе працаваць яшчэ адзін падрыхтоўчы клас па тэхналогіі "Крок за крокам". Адзін другі клас займаецца па праграме развіваючага навучання. У выніку яе прымянення больш эфектыўна развіваецца ў дзяцей лагічнае мысленне, фарміруецца ўменне рабіць вывады, прапановы, праяўляць ініцыятыву.

У школе арганізавана работа класа інтэграванага навучання. У гэтым навучальным годзе 6 класаў вучацца на рускай мове навучання (2а, 1а, падрыхтоўчыя класы). Пераход на рускую мову навучання адбыўся на падставе заяў бацькоў.

Па выніках праверкі тэхнікі чытання 1 "Б" клас (настаўніца А.А.Каспяровіч), падрыхтоўчы "Г" (настаўніца Н.А.Насевіч) поўнасцю справіліся з нормамі чытання і паказалі разуменне прачытанага. У астатніх падрыхтоўчых — другіх класах не справіліся па 1 — 3 вучні. На жаль, у некаторых дзяцей узровень тэхнікі чытання нават у 4-м класе амаль не мяняецца. І таму настаўнікам пачатковых класаў і выхавальнікам патрэбна больш актыўна выкарыстоўваць разнастайныя прыёмы работы з кнігай. Высокі тэмп чытання (больш 120 слоў у хвіліну) маюць у 4 "А" класе 5 чалавек, 4 "Б" — 2, 4 "В" — 3, 4 "Г" — 1.

Якасць выкладання матэматыкі ў пачатковай школе разглядалася на нарадзе пры дырэкцыі, і адпаведна праводзіліся кантрольныя работы па тэксце адміністрацыі школы. Настаўнікі пачатковых класаў адзначаюць складанасць падручніка матэматыкі, адсутнасць сістэмы задач па адпрацоўцы навыкаў рашэння тыпавых задач, заданняў для фарміравання навыкаў вылічэння. Трэба адзначыць станоўчыя вынікі прымянення мадэліравання задач (1 "Г" клас, настаўніца А.М.Стэльмах), што фарміруе асэнсаванне зместу задання. Найбольшая адпаведнасць адзнак за кантрольныя работы і адзнак за ІІІ чвэрць у 1 "Г" класе (А.М.Стэльмах), 1 "А" класе (Л.Ц.Скрыган) 1 "Б" класе (А.А.Каспяровіч), 4 "Б" класе (В.В.Феакцістава), 4 "В" класе (В.М.Шышко). Кантрольныя праводзіліся ў першых і чацвёртых класах.

Фізічнае выхаванне ажыццяўлялася з мэтай садзейнічання ўсебаковага развіцця асобы вучняў сродкамі фізічнай культуры, з улікам аптымальнага вырашэння задач фізічнага выхавання.

На ўроках фізічнай культуры комплексна вырашаліся гэтыя задачы з прымяняненнем разнастайных сродкаў і метадаў навучання і выхавання, падабраных у залежнасці ад педагагічных мэтаў, асаблівасцей вучняў і спецыфікі выкарыстоўваемых практыкаванняў, а таксама ўмоў правядзення ўрока, магчымасцей.

Большасць урокаў праводзілася на высокім арганізацыйным і метадычным узроўні, з выкананнем патрабаванняў да сучаснага ўрока. Разнастайнае прымяненне сродкаў у навучанні, выкарыстанне разнастайнага інвентару на ўроку павышае цікавасць дзяцей да ўрока, уплывае на рознабаковую фізічную падрыхтаванасць вучняў на ўроках В.М.Астрэйкі, А.Л.Сенюка, А.М.Лінніка. У мэтах павышэння аздараўленчага эфекту імкнуцца праводзіць больш урокаў на свежым паветры А.Л.Сенюк, Г.І.Каваленка.

Вынікі тэсціравання вучняў пацвердзілі добрую фізічную падрыхтаванасць класаў А.М.Лінніка, А.Л.Сенюка, В.М.Астрэйкі, А.М.Шакуна. На жаль, не праведзены раённыя спаборніцтвы па агульнай фізічнай падрыхтаванасці сярод класаў. Метадычная вучоба пры актыўным удзеле настаўнікаў скіравана на павышэнне эфектыўнасці фізічнага выхавання.

На працягу года праводзілася пазакласная спартыўна-масавая работа. Вяліся заняткі ў школьных спартыўных секцыях і гуртках: па баскетболу, валейболу, гандболу, лыжных гонках. Праведзены агульнашкольныя спартыўныя святы, Дні здароўя, спартакіяды паміж паралельнымі класамі. Школа ўдзельнічала ў круглагадовай раённай спартакіядзе па ўсіх відах праграмы і займала толькі прызавыя месцы. У складзе раённых каманд для ўдзелу ў абласных у большасці былі вучні з нашай школы, і нават каманды, якія таксама займалі прызавыя месцы і былі чэмпіёнамі вобласці. Чэмпіёнам Рэспублікі стаў П.Хаміцэвіч (трэнер А.Л.Сенюк).

Для больш дасканалага вывучэння гісторыі і культуры Беларусі ў школе працавалі краязнаўчыя гурткі пад кіраўніцтвам Н.М.Сямёнавай, С.А.Юрчэні. Сабраны багаты матэрыял аб жыцці і дзейнасці Ц.Гартнага, імя якога носіць наша школа. Таму ў наступным годзе неабходна будзе распачаць работу па стварэнню экспазіцыі школьнага музея, дзе б быў адлюстраваны жыццёвы і творчы шлях нашага знакамітага земляка. Клуб "Пошук" быў і застаецца цэнтрам патрыятычнага выхавання вучняў. У клубе ёсць секцыі экскурсаводаў, лектараў. Распрацавана тэматыка лекцый і экскурсій у музеі "Памяць". У школе праходзіў месячнік патрыятычнай работы, у якім актыўны ўдзел прынялі члены клуба "Пошук". Дзеці ўжо не першы год даглядаюць помнік на месцы гібелі 10 байцоў, што размешчаны на вул.Заазерная. Там пасаджаны дрэвы, заўсёды цвітуць кветкі.

Адной з форм патрыятычнага, эстэтычнага і маральнага выхавання падрастаючага пакалення заўсёды былі і застаюцца паходы і экскурсіі па гістарычных мясцінах Капыльшчыны і рэспублікі ў цэлым. Так вучні 7 "Б" і 7 "В" класаў наведалі старажытны Нясвіж. Многія вучні школы пабывалі ў музеі К.Чорнага ў Цімкавічах.

У гэтай школе заўжды пануе творчасць. Педагогі ўзбагачаюць вучняў ведамі, мудрасцю жыцця.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**старшы выкладчык кафедры кіравання Мінскага абласнога ІПК.**

